ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Жыве Беларусь!

Выдаецца са снежня 1994 г.
№21(81), 15-21 кастрычніка 2001 г.
Кошт па дамове



14 кастрычніка на глыбоцкім рынку ладзілася восеньская ярмарка. Пакупнікі маглі набыць харчовыя і прамысловыя тавары, оптам і ў розніцу, а таксама па зніжаных цэнах. А ў дадатак можна было паслухаць прыгожыя песні ў выкананні самадзейных і прафесійных артыстаў, паглядзець калекцыі моднага адзення. І, вядома ж, набыць газету «Вольнае Глыбокае».

*Фотаздымкі А.Храпавіцкага*







Дзелавыя кантакты

## Беларуская асацыяцыя журналістаў працуе дзеля будучыні Беларусі

З 4 па 7 кастрычніка ў Вільні прайшоў семінар для беларускіх журналістаў, якія працуюць на радыё, тэлебачанні і ў рэдакцыях незалежных газет. Ён быў арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў сумесна з Еўрапейскім і Літоўскім цэнтрамі журналістыкі і меў на мэце паглыбіць, удасканаліць веды журналістаў-практыкаў.

Арганізацыя падобных семінараў – адзін з накірункаў работы Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ), якая ставіць перад сабой мэту працаваць прафесійна і якасна, пашыраць колькасць сваіх сяброў, займацца адукацыйнымі і выдавецкімі праектамі, наладжваць цесныя кантакты і сувязі з замежнымі краінамі, карыстацца ў сваёй працы інавацыйнымі метадамі, увесь час удасканальваючы арганізацыйнае і журналісцкае майстэрства. Супрацоўнікі БАЖа, на чале з кіраўніком Ж. Ліцвіной актыўна праяўляюць свае грамадзянскія пазіцыі, змагаюцца за свабоду прэсы, за дэмакратыю ў краіне, прадстаўляюць самую разнастайную інфармацыю ўсім зацікаўленым выданням і асобам, праводзяць сустрэчы і даюць інтэрв'ю.

Што датычыць семінара, які доўжыўся тры дні ў Вільні, то ён быў арганізаваны канкрэтна і прафесійна. Былі прадугледжаны заняткі, экскурсіі па сталіцы, пражыванне і харчаванне, культурна-забаўляльная праграма. Сяргей Колмач і Эдуард Мельнікаў праяўлялі бацькоўскі клопат пра кожнага ўдзельніка семінара, усе пытанні вырашаліся аператыўна, усе просьбы журналістаў выконваліся. Дзякуючы прафесіяналізму і добразычлівасці перакладчыка Іллі, мы маглі абмеркаваць з французскім лектарам не толькі тэму семінара, але і пагаварыць пра праблемы друку на Беларусі. Паездка дала магчымасць не толькі падвучыцца, але і пабачыць шматлікія знакамітасці старой Вільні, падыхаць паветрам гісторыі, якая аб'ядноўвала некалі Беларусь і Літву, добра адпачыць і прывезці шмат цікавых матэрыялаў для сваіх газет.

Дзякуючы такім семінарам і прафесійным кантактам, мацуюцца і пашыраюцца рады грамадзянскай супольнасці, якая актыўна працуе дзеля адраджэння роднай Беларусі.

*Галіна Сутула, рэдактар газеты "ВГ"*

## Рабунак у Маладзечна

У ноч з 11 на 12 кастрычніка быў абрабаваны офіс рэдыкцыі «Рэгіянальнай газеты» ў г.Маладзечна. У рэдакцыі не было ахоўнай сігналізацыі, а таму зламыснікі без асаблівых цяжкасцяў зламалі краты і скралі ўсю аргтэхніку. Выхад папулярнай штотыднёвай газеты, якая выходзіць накладам 8050 экземпляраў і распаўсюджваецца ў Маладзечна, Мядзелі, Ашмянах, Астраўцы, Смаргоні, зрываецца. Выдаўцы іншых незалежных газет маральна падтрымалі рэдактара А.Манцэвіча і каб не сарваць выхад газеты, прапанавалі пакарыстацца сваёй аргтэхнікай.

*Ул.Скрабатун*

## Жыць не пажадаў

**22-гадовы рабочы дрэваапрацоўчага цэха №4 ААТ "Гомельдрэў" скончыў жыццё самагубствам, падставіўшы галаву на распіловачны станок.**

5 кастрычніка Андрэй прыйшоў на працу на 1,5 гадзіны раней. Не пераапрануўся ў "робу". Падышоў да станка, паклаў галаву пад пілу і націснуў на кнопку. Калі ў цэх прыбеглі людзі, цела было на адным баку станка, галава – на другім…

Андрэй быў сіратой. Вырас у інтэрнаце. Скончыў тэхнікум, адслужыў у арміі. Быў працавітым і яго ведалі як прыстойнага маладога чалавека. Пазней высветлілася, што ў дзень трагедыі Андрэй ужо спрабаваў пайсці з жыцця: вешаўся на шнурках ад туфлёў, але тыя не вытрымалі вагі цела і парваліся.

Жудасны выпадак. Яшчэ больш жахліва тое, што з жыцця пайшоў чалавек у самым росквіце год. А ці здзін ён прымае такое рашэнне, нацешыўшыся "слодычу" гэтага жыцця?

*М. Ясінская*

## Судзяцца за Чарнобыль

**Яшчэ 125 французаў, што пакутуюць на рак і хваробы шчытападобнай залозы, падалі ў суд супраць французскай дзяржавы,** якая быццам бы не прыняла належных мер перасцярогі пасля чарнобыльскай катастрофы, дэзінфарміравала насельніцтва і адмовілася ад выкарыстання еўрапейскіх і нацыянальных нормаў бяспекі ў час аварыі. У Беларусі пакуль ніводзін такі зварот у суд не быў прыняты да разгляду.

## Пачалася выплата кампенсацый

26 верасня ў Мінску Аўстрыйскі фонд прымірэння і Беларускі рэспубліканскі фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне" сумесна са 103-мя ўстановамі АСБ "Беларусбанк" пачалі выплату кампенсацый былым вязням прымусовай і рабскай працы ў сферы прамысловасці і сельскай гаспадаркі пры нацысцкім рэжыме на тэрыторыі Аўстрыі. Акрамя таго, выплаты будуць і для дзяцей, дэпартыраваных з адным ці абодвума бацькамі ва ўзросце да 12 год, а таксама маці, якія былі вымушаны нарадзіць у спецыяльных клініках для вязняў прымусовай працы.

Так, ахвяры рабскай працы атрымаюць аднаразовую выплату ў памеры 15 тысяч нямецкіх марак; ахвяры прымусовай працы ў сферы прамысловасці – 5 тысяч марак, у сферы сельскай гаспадаркі – 2857. Дзеці атрымаюць сумы, роўныя сумам іх бацькоў, а маці, якія нарадзілі ў няволі, будуць мець дадатковую плату – 714 марак.

*В.Асіпенка, БелаПАН*

# Ваша ініцыятыва будзе падтрымана

**Моладзь – самая актыўная частка нашага грамадтва. У падрастаючага пакалення павінна быць магчымасць арганізаваць свой вольны час і адпачынак, а таксама ўплываць на развіццё нашай дзяржавы.**

Памятаеце ўсходнюю прытчу: сем пруткоў лёгка зламаць паасобку, а калі злажыць іх разам, то нават асілак іх не пераломіць.

Сёння ў маладога чалавека ёсць багаты выбар арганізацый, якія збіраюць пад сваё "крыло" дзяцей, падлеткаў, юнакоў, каб забяспечыць ім магчымасць рэалізаваць інтарэсы, імкненне знайсці аднадумцаў, адчуць сябе асобай у грамадстве. На жаль, аб такіх арганізацыях мала інфармацыі, а школьныя ўстановы прапагандуюць толькі афіцыйныя, дзяржаўныя. Доўгі час большасць маладзёжных і дзіцячых арганізацый Беларусі, як тыя пруткі, існавала паасобку. У 1997 годзе з'явілася структура, якая дазволіла аб'яднаць гэтыя арганізацыі, падтрымаць усе іх ініцыятывы. Новая арганізацыя атрымала назву Саюз маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў "Беларускі Нацыянальны Маладзёжны Савет". Па словах Дзіяны Манеўскай, прэс-сакратара гэтага Саюза (на здымку 1), такая ж арганізацыя ёсць і ў Еўропе і працуе на карысць рэалізацыі маладзёжнай палітыкі ва ўсіх еўрапейскіх краінах.


1

На сёняшні дзень членамі Беларускага Нацыянальнага Маладзёжнага Савета ці Рады, з'яўляюцца 27 арганізацый. Сярод іх – рэспубліканская грамадская арганізацыя "Аб'яднанне беларускіх Скаутаў", грамадскае аб'яднанне "Беларуская Ліга інтэлектуальных каманд", "Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя" і іншыя. Як зазначыла Дзіяна Манеўская, Рада аб'ядноўвае гэтыя арганізацыі на добраахвотных пачатках, дапамагае ім у рэалізацыі дзейнасці ў рэгіёнах, аказвае інфармацыйную, тэхнічную падтрымку, арганізуе круглыя сталы, трэнінгі, забяспечвае неабходнай літаратурай, але не размяркоўвае фінансавыя сродкі. Адна з праблем, якой займаецца Маладзёжны Савет, — стварэнне партнёрскіх сувязяў паміж мясцовымі ўладамі і дзіцячымі арганізацыямі.

У 2000-м годзе Беларускі Нацыянальны Маладзёжны Савет займаўся рэалізацыяй праекта "Глабальны рух у інтарэсах дзяцей" у супрацоўніцтве з Дзіцячым фондам ААН (**junisef**). Вынікам гэтай работы стаў Саміт дзяцей Беларусі. Удзельнікамі Саміта былі распрацаваны рэкамендаці і прапановы для ўрада, міністэрстваў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь па рэалізацыі маладзёжнай палітыкі ў дзяржаве.

У Маладзёжным Савеце існуе база дадзеных усіх дзіцячых ініцыятыў, якія ажыццяўляюцца на месцах. Нядаўна з'явіўся ўласны сайт ў Інтэрнеце. Савет стварыў каардынацыйна-інфармацыйныя цэнтры ў абласных гарадах, у тым ліку і ў Віцебску.



Калі вы не раўнадушныя да праблем экалогіі, захавання культурнай спадчыны, распаўсюджвання СНІДу, правоў дзіцяці, калі жадаеце расказаць аб сваёй рабоце, прыняць удзел у міжнародным круглым стале, то раім вам звязацца з абласным прадстаўніцтвам Беларускага Нацыянальнага Маладзёжнага Савета: *г. Віцебск, вул. Смаленская, 9 – 454; тэл. (222)24 – 92 – 47; Аверын Леанід (ГК БСМ).*

**P. S.** За больш падрабязнай інфармацыяй аб дзейнасці арганізацыі можна звярнуцца ў рэдакцыю "Вольнага Глыбокага".

*Ю. Калбасіч*

**На фотаздымку: (1)Дзіяна Манеўская, прэс-сакратар Беларускага Нацыянальнага Маладзёжнага Савета;**

**(2)Рабочыя моманты Саміта дзяцей Беларусі ў 2000-м годзе.**

## Вышэй толькі неба

Памаладзеў, папрыгажэў старажытны касцёл у гарпасёлку Відзы Браслаўскага раёна пасля праведзеных нядаўна рэстаўрацыйных работ на другой высотнай вежы. У добрае надвор"е гэта двухвежавая базіліка, пабудаваная ў неагатычным стылі, добра бачна жыхарам ваколіц. Дарэчы, па вышыні шпіляў – 75 метраў – храму няма роўных у Беларусі. Цікава і тое, што залезшы на званіцу, можна ўбачыць падобны касцёл у стылі готыкі ў літоўскім пасёлку Адуцішкіс, які знаходзіцца на адлегласці 40 кіламетраў ад Відзаў, а таксама касцёл Святога Антонія ў Паставах. Усе тры храмы – помнікі архітэктуры XIX стагоддзя – "бачаць" адзін аднаго і ўзведзены з чырвонай цэглы ў адной манеры.

*У.Шык*

## Агонь не схаваў сляды злачынства

Нядаўна ў Глыбокім абрабавалі кватэру. У ролі злодзея быў дзевяцікласнік адной са школ Алег Г., ужо ўмоўна асуджаны за крадзеж у буйным памеры. Першы раз падлетка пашкадавалі. Другі раз зразумелі, што са шкадаваннем паспяшаліся. Даведаўшыся, што ў кватэры ёсць чым "пажывіцца", хлопец падабраў ключы і залез туды. Забраў 1950 даляраў, каля 13 тысяч расійскіх рублёў. Каб схаваць сляды злачынства, жыллё падпаліў. Бацькам юнага злодзея прыйшлося аддаваць і ўкрадзеныя грошы і выплочваць суму, на якую нашкодзіў пажар, а гэта 210 тысяч беларускіх рублёў. Але нават падобныя выплаты, відаць, не выратуюць падлетка ад калоніі.

*У.Шык*

## Пра мінулае без упрыгожання

Акрамя перыядычных выпускаў гістарычнага зборніка "Браслаўскія сшыткі", мясцовыя краязнаўцы пачалі выдаваць спецыялізаваную газету "Павет". Першы яе нумар накладам 299 асобнікаў хутка разышоўся сярод чытачоў Браслаўскага, Мёрскага, Шаркоўшчынскага раёнаў. У даваеннай Польшчы павет уключаў гэту вялікую тэрыторыю трох раёнаў. Той, хто цікавіцца мінулым, можа знайсці ў газеце шмат цікавай інфармацыі. Напрыклад, даведацца як змаглі нашы продкі без чужой дапамогі пабудаваць дарогу і мост у Мёрах паміж азёр. Выданне прадстаўляе таксама неардынарных знакамітых людзей мінулага стагоддзя, расказвае пра сучаснае культурнае жыццё рэгіёна.

*У.Шык*

## Ураджай бульбы не радуе

"Сёлета дранікі есці не будзем", — не раз даводзілася чуць ад прыватнікаў, якія справіліся з бульбай на сваіх агародах.

У свой час былы механізатар калгаса "Радзіма", Пастаўскага раёна Міхаіл Мацюшонак толькі па прычыне адмовы ўступіць у кампартыю не атрымаў высокае званне Героя Сацыялістычнай працы. Але за ўменне вырошчваць бульбу яго двойчы ўзнагароджвалі ордэнамі, а адборныя клубні неаднаразова дэманстраваліся на ВДНГ СССР. Міхаіл Мацюшонак сёння не разумее: чаму паўсюдна бульбу вырошчваць развучыліся і замест бульбы на дранікі выкопваюць адну насёнку ды свінную? Раней гаспадарка, у якой працаваў Міхаіл, садзіла бульбу на сотні, а то і больш гектараў. Зараз у цэлым раёне пад яе адводзяць 660 гектараў. Ураджайнасць бульбы, за выключэннем 5-6 перадавых гаспадарак, меншая чым 80 цэнтнераў з гектара.

*У.Шык*

# «Не хапае грошай на гулянку -- наступілі ботам на горла пенсіянеру»

***На адной з вуліц Пастаў жыве звычайная сям`я, даволі тыповая для цяперашняга часу: гаспадар добра п`е, гадоў сем нідзе не працуе. За крадзеж хатняй маёмасці быў асуджаны. Ні шчаслівымі, ні прыстойнымі ў паводзінах членаў сям'і не назавеш. Былі прыводы ў міліцыю, неаднаразовыя спробы скасаваць шлюб, спагнаць аліменты. Не надта цікавіліся бацькі і лёсам дзяцей, не імкнуліся даць ім добрую адукацыю: як ёсць — так і добра. Хіба адрозніваецца гэта сямейства ад астатніх тым, што любяць муж і жонка спраўляць гулянкі. З шырокім размахам адзначаюць і дзяржаўныя, і рэлігійныя, і сямейныя святы. Суседзям, якія жывуць пад адным дахам і маюць не капітальныя, а шчытавыя сцены, не пазайздросціш. Каб піцьгуляць, патрэбны грошы. А калі іх няма і зарабляць, як усе, не хочацца, то можна прыдумаць непраўдападобную гісторыю і літаральна выбіць грошы ў пенсіянеркі-суседкі.***

Сёлета ў жніўні гаспадары П. зноў ладзілі гулянку. Калі ёсць жаданне выпіць, то прычына адпаведная знойдзецца заўсёды. З грашыма было тугавата. І прыдумалі П. прыгожую казачку пра тое, што іх суседка-пенсіянерка быццам бы нядаўна пабывала ў Польшчы. Там яна нібыта сустрэлася са сваякамі П., якія перадалі радні з Пастаў грошы. Пенсіянерка з-за мяжы вярнулася, а грошай не аддае, заныкала і ўсё тут. А ў сям'і П. нагода — сярэбранае вяселле трэба адзначаць. І вырашылі П. так: калі суседка па-добраму не аддае, выб'ем. І сюжэт суседскай драмы з крымінальным адценнем закруціўся.

У канцы жніўня пасля добрых гуляў, яшчэ не праспаўшыся і, відаць, не апахмяліўшыся, П. прыйшоў да студні за вадой. Незгаворлівая суседка сядзела непадалёк і займалася сваімі справамі. П. пачаў патрабаваць, каб яна аддала грошы. Жанчына маўчала. Гэта вельмі не спадабалася П. і ён спачатку пачаў мацярыцца і абражаць жанчыну, а пасля ўдарыў яе вядром. Судова-медыцынская экспертыза, куды звярнулася пацярпелая, засведчыла цялесныя пашкоджанні. На месца здарэння прыехала міліцыя, быў складзены пратакол. Магчыма, П. вырашыў, што з ім жартуюць, бо належных вывадаў не зрабіў: на працягу двух месяцаў тэрцыраваў жанчыну, брыдкасловіў, патрабаваў невядома якіх грошай.

У аддзеле міліцыі, куды выклікалі П. і пацярпелую пенсіянерку, вельмі хутка ўсё паставілі на свае месцы. Міліцыянер узяў пашпарт пенсіянеркі, каб пераканацца, што тая сапраўды была за мяжой. Паколькі зараз мяжу не перасячэш не меўшы візы і спецыяльнай адметкі, то адсутнасць пячаткі ў пашпарце поўнасцю даказала невінаватасць жанчыны. Тая ні ў якое замежжа не выязджала, не бачыла ніякіх сваякоў П. і ніякіх грошай яму перадаваць была не павінна. П., прыпёрты фактамі да «сцяны», выкручваўся, як мог, нешта даказваў, апраўдваўся, адмаўляўся ад рашэння прызнання. Аж міліцыянер не стрываў і сказаў: «Што ж вы ўсіх дурнямі лічыце? І нас таксама?»

П. вынесена афіцыйнае папярэджанне. Суседка даравала яго і не захацела судзіцца. У горшым выпадку П. мог бы быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, але ці паразумнеў бы ён? Ці задумаўся б?

Прыгожая, на першы погляд, казка, прыдуманая П., мела сумны канец. Але ўсё гэта я расказала для таго, каб папярэдзіць астатніх: у любы момант вы можаце стаць ахвярай нечай задумкі. Вакол нас шмат выпівох, гультаёў, якія жадаюць прыгожа жыць, смачна есці і піць за нечы кошт. Яны вышукваюць даверлівых, баязлівых, паджылых людзей і пачынаюць раскручваць свае сцэнары. Але талент кожнага такога «артыста» павінен быць годна ацэнены. Спадзяюся, што чытачы згодны са мной.

*В. Любамірава, г.Паставы*

## Глыбокае. Восень `2001

Залатая восень заўсёды прыносіць шмат клопатаў глыбоцкай камунальнай гаспадарцы. Гэтую старую таполю *(здымак злева)*, якая насупраць крамы "Верас", трэба было спілаваць даўно, бо моцныя вятры ў нас не рэдкасць. Колькі шкоды можа нарабіць такое дрэва, якое раптоўна падае на будынкі і праезную частку вуліц. Спілавалі, але вось ламачча прыбіраць трэба хутчэй, каб не замінала пешаходам і аўтатранспарту. Затое на плошчы 17 Верасня *(здымак справа)* ўсё, як заўсёды, упарадку.



# Літва: далёкае - блізкае замежжа

Галіна СУТУЛА

**Пачаткам Літоўскай дзяржавы лічыцца 13-ае стагоддзе. У 1253 годзе быў каранаваны правіцель Літвы Міндаўгас. У 14-15 стагоддзях Літва стала самай вялікай краінай у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. У 1569 годзе яна стала часткай Літоўска-Польскай дзяржавы. У 1775 -ым Літва была далучана да Расійскай імперыі. У 1918 годзе краіне ўдалося ўзнавіць незалежнасць, але ўжо ў 1940-ым яна была акупіравана і анексіравана Савецкім Саюзам. Пасля 1990 года Літва вярнулася ў садружнасць свабодных і дэмакратычных дзяржаў, — гаворыцца ў адным з літоўскіх даведнікаў.**

**Чым і як жыве Літва сёння? Што хвалюе яе грамадзян? Дзе жыць лепш: у Беларусі ці ў Літве? На гэтыя і іншыя пытанні я паспрабавала адказаць, калі нядаўна пабывала ў камандзіроўцы ў суседняй, некалі сацыялістычнай Літве.**

## Што рабіць Літве без караля?

У адрозненне ад дзесяцімільённай Беларусі, Літва зусім невялікая як па тэрыторыі, так і па колькасці жыхароў краіна. Тут жыве ўсяго 3,7 мільёна чалавек, а ў сталіцы Вільнюсе каля 570 тысяч. Вільня ў параўнанні з Мінскам — ціхі правінцыйны гарадок, дзе на кожным кроку сустракаешся з гісторыяй. Не са сталінска-ленінкімі «фрэскамі» і той жа архітэктурай, а з сівой легендарнай мінуўшчынай, датаванай 17-18 стагоддзямі.

На 80 % Літва каталіцкая краіна. Толькі ў сталіцы налічваецца 40 касцёлаў і 7 цэркваў. На жаль, толькі ў дваццаці храмах сёння ідзе служба. Астатнія чакаюць рамонту і рэстаўрацыі. Як сказала ў размове гід, Літва хоць і маленькая краіна, але ў ёй пражывае 80% літоўцаў і няма сэнсу гаварыць пра выміранне нацыі. Падобная праблема вельмі востра паўстае перад суседняй Латвіяй, дзе карэнных латышоў усяго толькі 50%. Акрамя таго ў Літве пануе родная літоўская мова, узноўлены народная культура і традыцыі. І хоць нельга пакуль пахваліцца беспраблемным жыццём, Літва аднаўляе дэмакратыю і імкнецца стаць не сяброўкай краін-ізгояў, а паўнапраўным членам Еўрапейскага Саюза.

— Добра англічанам, — працягвала думку Генута, — Яны могуць прыйсці да каралеўскага палаца і крычаць:"Добры дзень, наша любімая каралева! А што рабіць нам? Мы такой магчымасці не маем, бо наш кароль памёр ў 17-ым стагоддзі.

Сапраўды, невырашальная пакуль праблема. Але заўважце: калі для большасці беларусаў самае надзённае пытанне, як выжыць, то для літоўцаў, як вярнуцца да гістарычных каранёў, ўзнавіць дынастыю Вялікай Літвы, мець такога лідэра, якому б хацелася гаварыць словы захаплення і ўдзячнасці.

Як сказаў у адным з інтэрв'ю шведскі кароль, ён не мае ўлады, але ён мае значна больш — давер народа. Менавіта гэтая акалічнасць вымушае яго працаваць дзеля дабрабыту свайго народа. У Беларусі сітуацыя з дакладнасцю да наадварот: той, хто мае ўладу, зусім не мае народнага даверу. Усе сілы ідуць на тое, каб гэты давер імітаваць.

На жаль, беларускі народ падобныя праблемы не хвалююць. Беларусы жывуць днём сённяшнім і ім пакуль гэтага дастаткова. Крот, які ўсё сваё жыццё рыецца ў цемені, таксама лічыць, што яму і гэтага дастаткова...



Герб Вільні

## Вільня: багацце і беднасць

Калі вам гавораць, што ў Вільні шмат шыкоўных гатэляў, рэстаранаў, кавярняў, супермаркетаў, дзе за грошы ёсць усё, чаго душа пажадае — верце. Акрамя якасных тавараў і паслуг там прысутнічае нацыянальны каларыт: афармленне, інтэр'ер, музыкальнае суправаджэнне, стыль — усё чыста літоўскае. Сучаснае па-майстэрску спалучаецца з мінулым і, здаецца, што аказваешся на мяжы часу. Гісторыя аказваецца побач ва ўтульных залах, невялікіх, але дагледжаных дворыках, ля старадаўняга каміна, на вялікіх драўляных варотах, дзе красуецца герб Пагоня.

Калі вам гавораць, што ў Вільні шмат паўразбураных, запушчаных будынкаў, якія псуюць маляўнічыя краявіды, — верце. На ўскраінах і ў цэнтры Вільні шмат будынкаў без вокан і дзвярэй. Усе яны чакаюць багатых гаспадароў, якія дадуць ім новае жыццё. Да гэтага тлумачэння мы дадумаліся самі. Гэта ж пацвердзілі і супрацоўнікі шыкоўнага трохзорачнага гатэля «Артіс». Яны прывялі такі прыклад:» Гатэль «Артіс» быў узведзены з такога ж запушчанага разбуранага памяшкання, якое выкупіў гаспадар гатэляў «Цэнтрум» і «Ратонда». Грошы зрабілі цуд: жах, як па узмаху чароўнай палачкі, ператвараўся ў трохзорачную казку, дзе суткі пражывання каштуюць 85 долараў. Тое, што ў Літве ёсць багатыя людзі, якія здольны арганізаваць еўрапейскі сервіз, пра многае гаворыць. Давайце палічым, ці шмат у Беларусі людзей, якія маглі б распачаць падобны бізнес? Калі такія б і знайшліся, то наша падатковая сістэма іх бы ў хуткасці калі не задушыла, то зрабіла б даўжнікамі дзяржавы. Выходзячы з гэтай акалічнасці, не трэба лічыць іхнюю беднасць безвыходнай, а нашу паўсядзённасць зямным раем. У Мінску няма такіх кантрастаў, як у Вільні, але ў беларускіх гатэлях за даволі вялікія грошы мы спім на пажоўклых ад часу, часам парваных, праштампаваных дзяржавай прасцінах, бяром з сабой мыла, шампуні, ручнікі...

За тры дні прабывання ў Літве мы абхадзілі шмат крамаў, рэстаранаў, пабывалі ў банках і супермаркетах. Літоўцаў вельмі здзіўляла наша пытанне: гэта прыватныя ці дзяржаўныя ўстановы? У іх уся сфера абслугоўвання прыватная. Лепшыя дактары і лячэнне — платнае. Атрыманне добрай прафесіі — платнае. Адпачынак — платны. Праблема як зарабіць грошы. Калі ж яны ў вас ёсць, праблемы знікнуць. Беларусы гэтым пахваліцца не могуць.



**На здымку:** Вільня, касцёл Святой Ганны.

*Фота І. Карповічуса*

## «Добры дзень, мой прэзідэнт»

Генута, якая была ў нас, групы беларускіх журналістаў, гідам паказала Стары горад. Мы ўзышлі на гару Трох Крыжоў, месца, з якога некалі пачыналася Вільня. Пасля другой Сусветнай вайны бетонны помнік Трох Крыжоў быў узарваны па загаду саветаў і адноўлены толькі ў 1989 годзе. Цудоўная панарама адкрылася вачам з гэтай высотнай гары. Шпілямі ў неба ўзвышаліся храмы, вялізныя дрэвы, сведкі даўняй гісторыі, тэлевізійныя вежы і сучасныя высоткі. Блакітна-белая кучаравая дымка ахінала нізіну, у якой туліліся адзін да аднаго невялікія прыгожыя будынкі. Мы пабывалі ля Бернардзінскага і ля касцёла Святой Ганны. У двары касцёла ёсць месца, з якога бачны шпілі і купалы ажно пяці храмаў. Мы пастаялі ў дворыку былога Віленскага ўніверсітэта, схадзілі ў храм, пабудаваны на месце гібелі трох віленскіх мучанікаў, жыццё якіх язычнікі прынеслі ў ахвяру сваім багам. Нам паказалі месца, дзе некалі жыў наш зямляк, першадрукар Францыск Скарына. Гід вельмі проста расказала пра перыяд яго жыцця і працы ў Вільні: «Скарына ажаніўся на багатай удаве. Тая дала яму грошы, на якія ён заснаваў друкарню і падарыў свету першую друкаваную кнігу.» Адметна месца, дзе тры дні праходзілі заняткі нашай групы. Мы вучыліся ў будынку, у якім ў 1822 годзе жыў Адам Міцкевіч. Ён рэдагаваў тут сваю паэму «Гражына».



**На здымку:** Вільня, Вострая Брама.

*Фота І. Якімавічуса*

Сфатаграфаваліся мы ля калоны Гедыміна. Пабачылі «знакамітасці» савецкага перыяду — аднатварыя, шэрага колеру будынкі і адзіную скульптуру гарністаў. Усе помнікі Леніну-Сталіну з Вільні даўно вывезены ў музей, які знаходзіцца пад адкрытым небам. Як кажуць, кожны заслужыў сваё: нехта трапіў на ганаровае месца, нехта на звалку, якая пасучаснаму культурна называецца музеем пад адкрытым небам. Мы пабачылі Дом урада. А ля Прэзідэнцкага палаца хадзілі побач штодня на заняткі. Адна літоўка распавяла, што аднойчы раніцай яна спяшалася на працу. Шлях яе пралягаў ля таго ж Прэзідэнцкага палаца. «Іду, пра сваё думаю. Раптам бачу, — кажа жанчына, — побач спыняецца прыгожы аўтамабіль, з яго выходзіць мужчына і кажа мне: "Добрай раніцы, спадарыня». Гляджу: а гэта наш прэзідэнт. Я і кажу: "Добрай раніцы, мой прэзідэнт". І ветліва ўсміхнуліся адзін аднаму. Адзіны ахоўнік, які стаяў побач, нічога не сказаў, мабыць, падумаў, што мы даўно знаёмыя".

І яшчэ жанчына расказала, што каля пяці гадзін ля палаца штодня збіраюцца чалавек дзесяць. Яны чакаюць, калі выйдзе прэзідэнт і вітаюцца з ім за руку.

А зараз прызнайцеся, паважаныя беларусы: каму з вас можа ўдацца павітацца за руку з нашым кіраўніком?

## Што? Як? Колькі?

Пабыць у Вільні і не прыцаніцца да іх жыцця — недаравальна. Долар у Літве каштуе 4 літы, літр бензіну — 2 літы альбо $ 0,5. У супермаркетах паліцы ломяцца ад тавараў. Да прыкладу, жаночыя дэмісезонныя паліто на распродажы каштуюць 100 долараў, світары — 50. Ведаю, што асенняе паліто па такой жа цане я магу купіць і на глыбоцкім рынку. Уся розніца ў заробках. Мінімальны заробак у Літве складае 100 долараў, а ў нас 20. Літоўскія настаўнікі атрымоўваюць 200-250 долараў у месяц, нашы добра калі 80. Межы максімальных заробкаў у Літве дзяржава не ўстанаўлівае, а ў нас паспрабуй зарабіць больш, чым прапануе дзяржава. Ты адразу «нячэсны» альбо вораг народа. Каб больш-менш годна пражыць месяц у Літве, трэба 400-450 долараў. Каб пражыць гэтак жа у Беларусі хапіла б і паловы сумы. На жаль, сярэднестатыстычная беларуская сям'я пра такія грошы можа толькі марыць.

Так, літоўцы плацяць 100% за камунальныя паслугі і гэта даволі дорага. Але ж яны маюць магчымасць зарабляць. Яны ўжо ведаюць цану сабе і сваёй працы. Літоўцы калі і выязджаюць на заробкі, то ў Германію, Францыю, Швецыю. Нашы ж беларусы спяшаюцца ў Ніжневартаўск, дзе за цэлыя два месяцы можна зарабіць ажно 200 долараў! Ці не здзек гэта над сабой!? Ехаць такую светніцу, плаціць па 50 долараў за дарогу ў адзін бок, вярнуць па 12-15 гадзін і прывезці за месяц сотню долараў. А што зробіш, калі ў роднай Беларусі гэтыя 200 добра калі заробіш за паўгода. Але вернемся да Літвы. За вокнамі аўтобуса мільгацелі неўзараныя палеткі. Зямля дагледжана толькі ў тых месцах, дзе, бачна, жыве фермер. У двары шмат рознай тэхнікі, а калі хата непадалёк ад дарогі, то яна ўжо альбо гатэль, альбо кавярня якая.

Прадукты харчавання ў Літве ў асноўным завазныя. Кіля добрага любовага мяса каштуе ў Вільні 19-22 літы альбо 5 долараў з хвосцікам. Шмат рыбы розных гатункаў і коштаў: ад 2 да 66 літаў за кілаграм (ад 0,5 да 18 долараў). Няма сэнсу пералічваць усё, што давялося бачыць. Скажу адно: літоўцы, як і палякі, купляюць ежу оптам. Напаўняюць даверху вялікія каляскі прадуктамі, каб тыдзень-другі не бегаць па крамах і не траціць марна час. А калі такое назіраецца, значыць, людзі маюць грошы і жывуць па новых, адрозных ад беларускіх, мерках. У параўнанні з Польшчай, крамы Вільні не такія ўжо і вялікія, але я крыху здзлудзіла, не магла знайсці касы. Параўноўваць літоўскія магазіны з нашымі сэнсу няма. У глыбоцкіх крамах няма сотай долі таго, што ёсць у невялікіх іхніх.

— Літва невялікая краіна, — сказала Генута. — Каб выжыць, мы павінны займацца турыстычным бізнесам, прапагандаваць свае культурныя каштоўнасці і спадчыну, добра ведаць замежныя мовы, каб усталёўваць зносіны паміж іншымі краінамі. Галандыя таксама маленькая краіна. Але галандцы размаўляюць на ўсіх мовах, займаюцца кветкавым бізнесам і жывуць цудоўна.

Нельга спрачацца, бо гэта сапраўды так. Што датычыць замежных моў, то на англійскай, да прыкладу, у Літве размаўляе кожны другі. Рускую мову маладыя літоўцы разумеюць крыху. Яна для іх — адна з замежных моў, а не «родная», як было пры саветах.

— Літва паўтарае памылкі, якія ў свой час рабіла Польшча,— гавораць літоўцы.

Добра тое, што яны разумеюць гэта і прызнаюць. Шлях да свабоды і дэмакратыя ніколі не быў кароткім і лёгкім. Я пераканана, што праз дзесятак-другі год у Літве будзе, як зараз, да прыкладу, у Германіі.

З жахам думаю аб тым, што будзе праз дзесятак-другі год з Беларуссю, якая ўсё «ідзе сваім асаблівым эканамічным шляхам», адкідваючы напрацоўкі і вопыт замежных краін?

## Не хлебам адзіным жыве чалавек

14 кастрычніка праваслаўныя адзначалі Святы Пакроў, дзень, калі Маці Божая ахінае сваім заступніцтвам і ласкай усіх нас, хто верыць у Святую сілу Малітвы. Паклонімся Маці Божай, аддзячым Яе і Сына Божага за літасць і дапамогу нам, грэшным чалавечкам. Просім Маці Божую маліцца за нас і дараваць нас!

У народным календары Пакроў стаў часам заканчэння усіх земляробчых работ і надыходу халадоў. Старыя людзі кажуць, што зямля павінна адпачываць да вясны і чапаць яе пасля Пакрова нельга. Адзначаецца, калі на Пакроў не будзе снегу, то і Каляды будуць без яго. Якое надвор'е на Пакроў, такая будзе і зіма.

"Святы Пакроў пакрыў зямлю лістом, траву – сняжком, ваду – лядцом, а дзяўчыну – шлюбным чапцом."

*М. Котаўы*



△ Парк Перамогі ў Глыбокім. Кастрычнік 2001г.

## 14 КАСТРЫЧНІКА -- ДЗЕНЬ МАЦІ



***Віншуем нашых любых, мілых, добрых і ласкавых, працавітых і самаахвярных матуль са святам. Жадаем Вам, дарагія, моцнага здароўя, узаемаразумення ў сям'і, радасці і шчасця ў паўсядзённым жыцці.***

*Супрацоўнікі «ВГ»*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ЗАПРАШАЕМ

**Газета «Вольнае Глыбокае» запрашае на працу прадаўца. Рабочыя дні: чацвер -- панядзелак з 8⁰⁰ да 14⁰⁰. Тэл. у Глыбокім 2-37-54, 3-76-19**

### ПРАДАМ:

**-- бляху ацынкаваную 0,55 мм -- 2,50 х 1,25;**
**-- аўтамабіль ГАЗ-53 (фургон);**
**-- фургон ізатэрмічны да ЗІЛа альбо ГАЗ-53;**
**-- вагон пад гандаль;**
**-- гараж у раёне МКК памерам 5,5. х 10,0;**
**-- сядзібу ў вёсцы пад знос.**
**Звяртацца ў г. Глыбокім па тэл.; 2-43-25 альбо 2-20-17**

**-- аўтамабіль УАЗ -- 3962 («хуткая» дапамога), дызель, 1999г.в., колер -- пясочны, у выдатным тэхнічным стане, прабег 16 тыс. км**
**-- ЗІЛ-130, дызель. Тэл. у Шунеўцах 3-43-85 (пасля 21⁰⁰)**

**-- аўтамабіль "Фольксваген-Пасат" (карбюратар) у добрым стане.**
**-- касетны магнітафон "Маяк"; стэрэаўзмацняльнік і калонкі S-90 "Радыётэхніка"; тэлевізар "Бярозка", танна. Тэл. у Глыбокім: 23128.**

**Трохпакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў раёне МКК. Тэл. у Глыбокім: 2-48-40**

**-- аднапакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў Глыбокім (раён Беразвечча). Тэл. у Глыбокім : 2-49-05**

**-- вязальную ручную машыну «Северянка», куплю піяніна «Беларусь», танна. Тэл. 2-15-11**

**Прадам ці абмяняю 2 дамы на адным участку на двухпакаёвую кватэру з выгодамі. Звяртацца: вул. Леніна, 83**

### ДАПАМАГУ:

**-- падрыхтавацца да ўступных экзаменаў у ВНУ па нямецкай мове. Тэл. у в. Залессе: 3-61-21**

### ЗДЫМУ:

**-- здыму на працяглы тэрмін аднапакаёвую кватэру з выгодамі для аднаго чалавека. Тэл. 3-86-25, (2-11-73 з 8.00 да 18.00, Лена)**

**-- сям'я з двух чалавек здыме 1-пакаёвую кватэру. Тэл 2-14-95 да 19**

**-- здыму гараж у раёне ПТВ-168 тэрмінова на працяглы час. Тэл. у Глыбокім 2-20-07**

**Здыму адна-двухпакаёвую кватэру з выгодамі і тэлефонам у раёне МКК на працяглы тэрмін. Тэл 3-76-19 Яраслаў**

### КУПЛЮ

**ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане: біты, нерастаможаны, не на хаду. Разгледжу любыя варыянты. Тэл. у Наваполацку: 8-245-73042 (раніца, вечар)**

## Выстава камунізму ў Польшчы

У прамысловым раёне Кракава Новай Гуце адчынена выстава камунізму, якая узнаўляе атмасферу часу 1944 – 1989 гадоў. Экспазіцыя стала пачаткам стварэння ў Новай Гуце музея камунізму "СоцЛянд". Гэтай справай займаецца фонд пад аднайменнай назвай, які створаны вядомым кінарэжысёрам Анджэем Вайдам і сатырыкам Яцэкам Федаровічам.

На выставе прадстаўлена прапагандысцкая літаратура, плакаты, партрэты партыйных правадыроў. За парадкам сочаць "актывісты" ў чырвоных гальштуках. На выставе былі арганізаваны чэргі за хлебам. Можна было па талонах купіць каўбасу і тут жа з' есці пад наглядам чырвоных штандараў. Можна было палюбавацца на засядаючых за вялікім сталом прэзідыума важных асоб.

Аўтары маюць намер прадстаўляць штодзённае жыццё перыяду панавання "самай лепшай з усіх магчымых сістэм".

*Д. Прохараў*

## КРЫЖАВАНКА ПА-ЯПОНСКУ

Гэтая ўсходняя забава цудоўна прыжылася і атрымала папулярнасць у нашым рэгіёне. "Вольнае Глыбокае" імкнецца адпавядаць інтарэсам чытачоў і ў якасці эксперымента прапануе вам правесці вольны час з нашай газетай. Для навічкоў нагадаем, што лічбы ў вертыкальных калонках і гарызантальных радках азначаюць колькасць клетак, якія трэба затушаваць алоўкам. Калі адзначаны дзве і больш лічбаў, паміж чорнымі клеткамі павінен быць разрыў з адной і больш белых клетак. Калі Вы жадаеце бачыць японскія малюнкі ў наступных нумарах, прымаць удзел у конкурсе крыжаванак, дасылайце свае адказы на адрас: **211800, г.Глыбокае, вул.Маскоўская, д.14, кв.2, Юрый.**

***Жадаю поспехаў!***



## На конкурс *Неверагодных гісторый*

*Прывітанне шаноўнаму спадарству рэдакцыі газеты "Вольнае Глыбокае" ад Алены. Дзякуй вялікі за цёплыя словы і пажаданні, сказаныя вамі ў мой адрас. Апублікаванне маіх вершаваных радкоў стала для мяне прыемнай неспадзяванкай, а вашая падтрымка аказалася як нельга дарэчы.*

*Для падмацавання нашых з вамі сувязяў зноў прапаную на конкурс неверагодных гісторый новую "байку".*

### З цыкла *"Гандлярскія байкі"*

У Глыбокім-гарадку
У кірмашовым раі
Прафесійную сям'ю
Мы не раз спаткаем.
Толя з Любай – гандляры
Лепшыя з найлепшых –
Хоць увесь тавар бяры
Пасля іх усмешак.
Паспяшайцеся набыць
Розныя ўборы!
Гандаль добры мае быць:
Толя – у гуморы.
Як у казцы торг пайшоў –
Сто даляраў запар.
І ніхто каб не знайшоў,
Толя, як Даватар.
Аперацыю "Тайнік"
Правярнуў удала:
Грошы ў куртачку-ватнік,
Што ўжо год ляжала,
Не прыдбаная нікім,
Запіхнуў і рады.
Усміхаецца ўсім
І дае парады.
Свой прыбытак неблагі
Захацеў адзначыць
І "Кагорам" дарагім
Удачу аддзячыць.
У магазін на пяць хвілін
Толя адлучыўся.
А да Любы пакупнік
З торбай падкаціўся.
Куртку-ватнік ён здаля
У палатцы ўбачыў.
Пра цану яе спытаў,
— Будзе браць няйначай!
Потым грошай адлічыў
Любе колькі трэба,
Куртку тую ухапіў
І прапаў без следу.
Люба далей торг вядзе,
Радая — без меры.
Вось і Толічак ідзе
З добрым паўлітэрам.
Жонцы весела міргнуў,
Тая ж не ўтрывала.
І пра куртку навіну
З гуморам расказала.
Толя гэта як пачуў
Пачарнеў, бы хмара.
Цёмна стала ўваччу,
Як пярун ударыў.
Аб зямлю бутэльку – плясь:
"Вось і напіліся!"
Бог, ён лішняга не дасць,
Колькі не маліся.

## Новы рэкорд – 203 жонкі

70-гадовы егіпцянін Мустафа Эйд Саміда за сваё жыццё жаніўся і разводзіўся шмат разоў. Ажаніўся першы раз у 15 год. Сама доўга адбыў у шлюбе – 10 год, сама менш – некалькі гадзін. Саміда тлумачыць сваё "хобі" тым, што шукае ідэальную жанчыну. Зараз егіпцянін не жанаты, але ў бліжэйшы час хоча ажаніцца адразу на дзвюх жанчынах. "Я ніколі не прасіў рукі ніводнай жанчыны, — кажа Самід. – Яны самі хацелі мяне. Я быў на іх баку. Маё жыццё – гэта грамадзянская служба".

**Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку» і ў нашых распаўсюджвальнікаў**

Незалежная рэгіянальная газета Вольнае Глыбокае

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор: Юрый Калбасіч, Наталля Янковіч
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА): тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 1 друкаваны аркуш
Падпісана ў друк 15 кастрычніка 2001 г. у 9⁰⁰

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6333